ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 16 (2418) 20 красавіка 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.



Бясслаўна сышоў у гісторыю першы Вярхоўны Савет суверэннай Беларусі. Прыняўшы пад націскам Прэзідэнта пастанову аб рэферэндуме, ён паказаў усяму свету адсутнасць волі і мудрасці. А потым свет здрыгануўся ад навін з Мінска: 19 дэпутатаў ад апазіцыі, якія аб'явілі галадоўку ў знак пратэсту супраць рэферэндуму, у ноч на 12 сакавіка былі добра пабіты ўзброенымі "амонаўцамі" і вывезены сілком з залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. Па афіцыйнай версіі, з-за нібыта падкладзенай у зале міны.

Ці на гэтым скончыцца беларускі спектакль абсурду?..

НА ЗДЫМКУ: галадаючыя дэпутаты ад апазіцыі ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларусі.

Фота Сяргея ГРЫЦА.

# "ЛЮДЗЯМ К ДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ"

## ПОДУМКІ І ФАКТЫ З ВЫСТАВЫ "БЕЛАРУСКАЯ КНІГА-94"

Чарговая выніковая кніжная выстава, арганізаваная Міністэрствам культуры і друку, адбылася ў сталіцы 23--30 сакавіка. Мерапрыемствы, якія адбыліся ў дні яе правядзення (прэс-канферэнцыя, прэзентацыі кніг, дні выдавецтваў), засведчылі: нягледзячы на скрутныя ўмовы, беларускае кнігавыданне жыве, з'яўляюцца на свет новыя і новыя творы, а значыць яшчэ адна крыніца духоўнага сілкавання народа не перасыхае.

Дзяржава па меры магчымасці стараецца дапамагаць кнігавыдаўцам. Летась датацыі склалі: на дзіцячую літаратуру -- 75 працэнтаў, на дарослую -- да 50 працэнтаў затрат. Але адбываюцца дзіўныя рэчы: з адной кішэні дзяржава клапатліва выдзяляе грошы, а потым пры дапамозе падатковых службаў забірае 51 працэнт (!) ад тых жа самых датацый і кладзе сабе ў другую кішэню. Тым не менш з усіх амвонаў можна пачуць пра тыя міфічныя 75 ці 50 адсоткаў, якія выдзяляюцца з бюджэту на гэтак патрэбную паспалітаму люду справу. Падобную датацыю клапатлівай успамогай язык не паварочваецца назваць. І нездарма на прэс-канферэнцыі з вуснаў дырэктара выдавецтва "Полымя" спадара Івановіча прагучала красамоўная выснова, што не дзяржава датуе выдавецтвы, а хутчэй наадварот.

Якія ж вынікі кнігавыдавецкай дзейнасці на Беларусі? Прывядзём канкрэтныя лічбы. Дзяржаўнымі выдавецтвамі ў 1994 годзе выпушчана ў свет 835 кніг і брашур агульным накладам 23 мільёны асобнікаў. Актывізаваліся недзяржаўныя выдаючыя арганізацыі і фірмы, якіх зарэгістравана ў нашай краіне ўжо больш за 1 000. Яны ажыццявілі выпуск 1 043 кніг накладам 50,5 мільёна асобнікаў. Літаратура якога гатунку ў асноўным склала гэтыя мільёны, мы можам пераканацца, гледзячы на незлічоныя вулічныя laткі: бясконцая чарада замежных дэтэктываў, у назвах якіх абавязкова фігуруюць словы забойства, жах, смерць і г.д. (Праўда, у параўнанні з 1993 годам, наклады кніг на падобную тэматыку значна зменшыліся: нават па рынкавых мерках гэткай літаратуры з'яўляецца на свет зашмат).

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# БЕЛАРУСЫ ЛАТВІІ ЗАНЕПАКОЕНЫ

Сённяшнія непаважныя адносіны да Закону аб дзяржаўнай мове ў розных установах Беларусі і асабліва ў сістэме адукацыі ўсё больш турбуюць беларусаў Латвіі, адкрытыя нападкі на беларускую мову, беспадстаўныя сцвярджэнні, быццам беларуская мова -- бедная мова і на ёй нельга выказваць нешта ўзвышанае, што ў свеце ёсць толькі дзве вялікія мовы -- расейская і ангельская. Усё гэта абражае, прыніжае нашу родную беларускую мову і мільёны беларусаў, што жывуць на Радзіме і за яе межамі, у тым ліку ў Латвіі. Асабліва нас устрывожыла вестка аб правядзенні ў Беларусі рэферэндуму, мэта якога -- наданне расейскай мове статуса дзяржаўнай і перагляду старажытных дзяржаўных сімвалаў Беларусі.

Беларусы на тэрыторыі сённяшняй Латвіі жывуць з даўніх часоў, тут склалася іх самабытная культура і традыцыі, захавалася беларуская мова. У 20-я гады ў Латвіі існавала больш пяцідзесяці беларускіх школаў, беларускія гімназіі, тэатр, друк, якія ў пазнейшыя часы са зменай палітычнага становішча былі ліквідаваны. У апошнія гады асветна-культурнае жыццё беларусаў Латвіі пачало адраджацца. На гэта станоўча паўплывала й адраджэнне нацыянальнай незалежнасці самой Беларусі, прыняцце закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы. У 1989 годзе была адкрыта беларуская мастацкая студыя "Вясёлка", пачала працаваць беларуская праграма на Латвійскім радыё, у 1993 годзе адкрыта Рыжская беларуская нядзельная школа, выйшаў першы беларускі часопіс "Світанак" і газета "Прамень", а ў гэтым навучальным годзе быў адкрыты I клас беларускай школы ў Рызе. Аднак маючы адбыцца рэферэндум ставіць пад пагрозу ўсё гэта і ўвогуле адраджэнне і развіццё беларускай культуры ў Латвіі, бо сённяшнія дзеянні ў Беларусі адбіваюцца і на адносінах да беларускай дыяспары. Каля ста тысяч беларусаў Латвіі адчуваюць на сабе адсутнасць дзяржаўных пагадненняў паміж Рэспублікай Беларусь і Латвіяй аб пенсіянерах, аб гандлі, аб культурным супрацоўніцтве і аб адукацыі беларусаў Латвіі на роднай мове.

Мы разумеем тых беларусаў, у якіх выхавана найбольш любоў да расейскай мовы і якім цяжка прызвычаіцца да беларускай мовы. Але хацелася б, каб і яны зразумелі, што няма ў свеце такога народа, які адмовіўся б ад сваёй мовы. Кожны народ, будуючы сваю дзяржаву, карыстаецца старажытнай мовай гэтай зямлі, а не ўводзіць чужую мову. Няма моў вялікіх і малых, як моў бедных ці багатых. Для кожнага народа, нацыі свая мова ёсць і найвялікшая, і найбагацейшая, і найпрыгажэйшая, бо гэта родная мова, як і маці. Няхай беларуская мова ідзе з садкоў, з школаў і вышэйшых навучальных установаў. Пройдуць гады, і Беларусь гэтага пакалення ўжо загаворыць на роднай мове, і не будзе праблем з беларускай мовай, і стане тады Беларусь сапраўднай беларускай дзяржавай. Але будзе ж вялікі сорам усім нам перад іншымі народамі свету, калі па прычыне рэферэндуму народ наш страціць родную мову і адрачэцца ад ужо прынятых у Канстытуцыі гістарычных сімвалаў Беларусі. Таму мы спадзяёмся на вас, нашы суайчыннікі, мы верым, што вы захаваеце незалежнасць Беларусі і нашу родную беларускую мову, бо няма мовы -- няма і народа.

Ад імя агульнага сходу:

**ад Латвійскага таварыства беларускай культуры "Світанак": старшыня Мікола ЯРЧАК, старшыня рады Сяржук КУЗНЯЦОЎ; ад Таварыства беларускай мовы "Прамень": старшыня Алесь КАРПОВІЧ, намеснік старшыні Ала МАКАРЭВІЧ; ад Рыжскай беларускай школы і аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар": старшыня Вячка ЦЕЛЕШ; ад Таварыства беларускай культуры "Уздым": старшыня Мікола ПАЎЛОВІЧ, намеснік старшыні Станіслаў ВАЛОДЗЬКА; кіраўнік ансамбля "Надзея" Зоя КАЛЬВІШ; рэдактар газеты "Прамень" Лявон ШАКАВЕЦ.**



Рэшткі гэтага праваслаўнага храма (на здымку), помніка архітэктуры сярэдзіны XIX стагоддзя, знаходзяцца ў вёсцы Зембін каля Барысава. Усім сваім скалечаным целам, праваламі пустых вокнаў просіць ён паратунку, спадзяецца на здаровы сэнс і міласэрнасць у чалавечых душах. Каб здолелі людзі аднавіць свае святыні, можа і вярнулася б да іх шчасце і Боская ласка.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*НА РАЗВІТАННЕ*

## АПОШНІ ДЗЕНЬ ПАРЛАМЕНТА

**13 красавіка 1995 года беларускі парламент завяршыў сваю работу. Адгукнуўшыся на дамаганні Прэзідэнта, Вярхоўны Савет ратыфікаваў Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве Беларусі з Расіяй. За гэта рашэнне прагаласавалі 197 дэпутатаў. Аднадушныя былі парламентарыі і пры разглядзе Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве з еўрапейскім супольніцтвам.**

**У парламенце ўжо ведалі, што 19 дэпутатаў у сераду вечарам спынілі галадоўку. І хоць яны не з'явіліся больш у Авальнай зале, стала вядома, што Зянон Пазьняк абгрунтаваў рашэнне тым, што ў будынку Вярхоўнага Савета, дзе збіраліся прадоўжыць галадоўку парламентарыі, ім забаранілі быць разам і не выключалася магчымасць паўтарэння насільнага выдварэння. Акрамя таго, паводле яго слоў, у апазіцыі цяпер ёсць важнейшая задача -- падрыхтоўка да новых парламенцкіх выбараў.**

**Потым на разгляд сесіі быў прадстаўлены Дагавор паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй аб сумесных намаганнях па ахове Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь. Дэпутат Уладзімір Грыбанаў адзначыў, што ёсць сумненні па шэрагу артыкулаў дакумента, напрыклад, па артыкулу 11, дзе гаворыцца, што "Беларускі бок прадстаўляе паветраным суднам Расійскай Федэрацыі правы на бясплатнае выкарыстанне сваёй паветранай прасторы, аэрапортаў, аэрадромаў (пасадачных пляцовак), атрыманне навігацыйнай, метэаралагічнай і іншай інфармацыі".**

**Па гэтых і іншых пытаннях былі дадзены адпаведныя тлумачэнні службовых асоб. А Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што гэта пагадненне прадугледжвае аказанне Расіяй фінансавай дапамогі ў ахове граніц рэспублікі. Расійская Федэрацыя мае намер укласці велізарныя сродкі ў забеспячэнне нашай граніцы тэхнічнымі, матэрыяльнымі сродкамі і рэсурсамі па сваіх унутраных цэнах.**

**Пасля абмеркавання парламент ратыфікаваў гэты дакумент.**

**Усхваляваныя пасля фатаграфавання на памяць зайшлі дэпутаты ў залу на дзённае пасяджэнне. Адлюстраваўшы сябе на плёнцы з Прэзідэнтам і двума спікерамі парламента -- Мечыславам Грыбам і Мікалаем Дземянцеем (Станіслаў Шушкевіч адмовіўся ўдзельнічаць у гэтай працэдуры), дэпутаты, відаць, ужо апошні раз занялі свае рабочыя месцы, каб прыняць тое рашэнне, якога ад іх даўно чакалі. На абмеркаванне было пастаўлена пытанне аб рэферэндуме. З матывіроўкай, што народу неабходна даць выказацца па гэтых складаных праблемах, дэпутаты прынялі адпаведнае рашэнне. Праўда, была прапанова Івана Герасюка дабавіць у пастанову пункт, які абвяшчае, што калі ў выніку гэтага рашэння ў грамадстве ўзнікне супрацьстаянне, то ўсе, хто прагаласаваў "за", будуць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Але яно было сустрэта ў штыкі.**

**Пасля гэтага дэпутаты прынялі яшчэ адно рашэнне, якое раней упарта "не праходзіла": дапоўнілі Закон "Аб святочных днях у Рэспубліцы Беларусь". Цяпер ці, дакладней, зноў стане святам 7 лістапада -- Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі.**

**Дэпутаты папоўнілі спіс прынятых законаў, прыняўшы адразу ў першым і другім чытаннях Закон "Аб амністыі ў гонар 50-годдзя Перамогі". Як было паведамлена, у адпаведнасці з гэтым нарматыўным актам з месцаў зняволення будзе вызвалена больш за 13 тысяч чалавек.**

**Пасля разгляду некаторых іншых пытанняў дэпутаты закрылі 16-ю сесію і адправіліся на банкет, які ў іх гонар арганізаваў Прэзідэнт.**

*РЭХА ПАДЗЕЙ*

## ЗАЯВА ПАСОЛЬСТВА ЗША

**Пасольства ЗША выступіла з заявай аб палітычных падзеях у Беларусі.**

**Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі, гаворыцца ў заяве, з велізарнай заклапочанасцю разглядае развіццё палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Асаблівую трывогу пасольства выклікалі паведамленні аб прымяненні сілы ў адносінах да членаў Вярхоўнага Савета ў зале пасяджэнняў.**

**Злучаныя Штаты настойліва заклікаюць да вырашэння палітычных рознагалоссяў мірным і дэмакратычным шляхам пры поўным захаванні правоў чалавека ў адпаведнасці з міжнароднымі пагадненнямі, падпісанымі Беларуссю.**

*ЛУЧНАСЦЬ СЭРЦАЎ*

## ГОСЦІ НА ВЯЛІКДЗЕНЬ

**На велікодныя канікулы ў Беларусь прыедзе больш як 200 гасцей з Германіі, Аўстрыі, Польшчы, Італіі. Гэта тыя сем'і, якія прымалі раней у сябе нашых дзяцей з чарнобыльскіх раёнаў Беларусі. Цяпер яны хочуць зноў сустрэцца з імі, паглядзець, як нашы дзеці жывуць, як іх здароўе, бо для многіх яны сталі добрымі і блізкімі сябрамі.**

**Прыезд замежных гасцей напярэдадні 50-годдзя Перамогі носіць характар акцыі міру і прымірэння. Яны паедуць у забруджаныя Чарнобылем раёны, каб бліжэй пазнаць тых людзей, якім дапамагаюць у цяжкую хвіліну, каб абудзіць у іх надзею і мужнасць.**

*НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ*

## ФЕСТЫВАЛЬ ДУХОЎНАЙ МУЗЫКІ

**У дні святкавання Уваскрэсення Хрыстова ў Мінску пройдзе фестываль духоўнай музыкі, які па благаславенню Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта арганізуе Цэнтр праваслаўнай асветы прападобнай Ефрасінні Полацкай. Прыняць удзел у фестывалі запрошаны царкоўныя хоры мінскіх прыходаў, дзіцячых нядзельных школ, свецкія дзіцячыя і дарослыя аматарскія музычныя калектывы з Беларусі, а таксама з Польшчы і Галандыі. У праграме гэтага музычнага свята песнапенні, канцэрты царкоўных кампазітараў-класікаў і сучасных аўтараў, у тым ліку беларускіх.**

*УДАСТОЕНЫ ЗВАННЯ*



**Звання правадзейнага члена Расійскай акадэміі сельскагаспадарчых навук удастоены гамяльчанін Віктар Іпацьеў. Вядомы беларускі вучоны-лесавод узначальвае Інстытут лесу Акадэміі навук Беларусі. На яго рахунку больш за 130 навуковых работ, у тым ліку пяць манаграфій і падручнікаў па найважнейшых пытаннях лесаразвядзення, гідралесамеліярацыі, радыеэкалогіі.**

**На гэтым здымку вы бачыце Віктара Аляксандравіча (у цэнтры) з навуковым супрацоўнікам інстытута Мікалаем БУЛКО і інжынерам-аграбіяхімікам лабараторыі радыяцыйнага лесаводства Таццянай БЯЛОВАЙ.**

*"Ворагам беларушчыны не патрэбна самастойная незалежная Беларусь. Няма мовы -- няма дзяржавы. Не трэба ім нашы сцяг і герб. Яны пра іх хлусяць, спекулюючы на калабарантах. Яны спекулююць на пачуццях ветэранаў. Асабліва прыдатны час для такой спекуляцыі цяпер, напярэдадні 50-годдзя Вялікай Перамогі. Шаноўныя ўдзельнікі вайны, ведайце, у нашых сімвалаў вялікая і слаўная гісторыя. Не паддавайцеся часовай кампанейшчыне. Нацыянальная атрыбутыка не малюецца, як гэта было са сцягам БССР у 1952 годзе. І наш час не ўрок малявання. Кожная нацыя, што паважае сябе, трымаецца сімвалаў, створаных гісторыяй. Давайце ж шанаваць традыцыі цывілізаваных людзей. Наша Беларусь, наш беларускі народ займелі славу краіны і народа, якія ішлі да суседзяў не з мячом, а з кнігай. На нашай дабрыні спекулююць нячыстыя на руку палітыкі, а то і проста ворагі. Ім патрэбна Беларусь без беларусаў. Нашы рукі спрабуюць падняць на самаўдушэнне нашай мовы, герба, сцяга. Уберажом жа на гэты раз Беларусь ад сусветнага сораму і ганьбы".*

*(Са Зварота Саюза пісьменнікаў Беларусі да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь).*

*ВАКОЛ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ*

## НОВЫЯ ТЭРМІНЫ

**10 красавіка Вярхоўны Савет прыняў пастанову, якая прадоўжыла тэрміны выдачы, абарачэння і пагашэння прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць".**

**На думку членаў Камісіі па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі, пры цяперашніх тэмпах выдачы чэкаў грамадзяне не паспеюць атрымаць іх да 1 ліпеня 1995 года. Таму тэрмін іх выдачы працягнуты да 1 студзеня 1996 года. Адпаведна працягнуты тэрміны абарачэння чэкаў -- да 1 ліпеня 1999 года і іх пагашэння -- да 1 ліпеня 2000 года.**

**У той жа дзень сваім указам Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка вызваліў Валерыя Мацюшэўскага ад пасады першага намесніка міністра па кіраванню дзяржаўнай маёмасці і прыватызацыі Рэспублікі Беларусь у сувязі з выхадам у адстаўку.**

*БЕСПРАЦОЎЕ*

## РАБОЧЫХ МЕСЦАЎ НЕСТАЕ

**На пачатак красавіка армія беспрацоўных у Беларусі зноў папоўнілася. Толькі на ўлік жадаючых працаваць стала на восем тысяч чалавек больш, чым было на 1 студзеня. І на 19,3 тысячы вакантных месцаў ужо прыпадае 109,2 тысячы беспрацоўных.**

**Як і раней, больш за ўсё тых, хто звярнуўся па дапамогу ў дзяржаўную службу занятасці, у Мінскай вобласці -- 21,2 тысячы чалавек, у Брэсцкай -- іх 18,7, Гомельскай -- 17,4, Магілёўскай -- 15,7, Віцебскай -- 14,7, Гродзенскай -- 12,4 тысячы, у Мінску -- 9 200 чалавек.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ДЭПУТАТЫ Вярхоўнага Савета Беларусі не далі згоды на прыцягненне да крымінальнай адказнасці свайго калегі Ігара Герменчука -- рэдактара газеты "Свабода". Па патрабаванню Прэзідэнта А.Лукашэнкі Генеральны пракурор В.Шаладонаў мае намер узбудзіць супраць І.Герменчука крымінальную справу за надрукаванне ў "Свабодзе" паэмы "Лука Мудзішчаў -- Прэзідэнт", якая нібыта абражае годнасць Прэзідэнта Беларусі.

РЭЗЕРВЫ замежнай валюты Нацыянальнага банка Беларусі павялічыліся з 1,2 мільёна долараў на пачатку года да 76 мільёнаў да пачатку сакавіка. Такі "прыбытак" -- вынік удала праведзенай аперацыі: за студзень-люты ў насельніцтва было куплена па біржавому курсу 80,9 мільёна долараў, а прададзена толькі 36,3 мільёна долараў.

ЗА 1994 ГОД колькасць атэлье і майстэрняў у Беларусі зменшылася на 8 працэнтаў -- 713 адзінак. На 25 працэнтаў зменшылася колькасць майстэрняў па рамонту і рэстаўрацыі мэблі, на 16 працэнтаў -- пунктаў пракату, на 11--14 працэнтаў -- атэлье па індывідуальнаму пашыву абутку і адзення.

МАСКВА з даўніх савецкіх часоў ела беларускую бульбу. Наша рэспубліка штогод забяспечвала саюзную сталіцу гэтым прадуктам. Цяпер масквічы будуць есці індыйскую бульбу: гарадскія ўлады рашылі закупіць у Індыі больш 8 тысяч тон бульбы. Беларуская -- не падыходзіць, яна вельмі нізкай якасці: да 30 працэнтаў ідзе ў адходы.

КОЛЬКАСЦЬ нежадаючых служыць у беларускай арміі можа ўзрасці ў 380 разоў. Такі прагноз робяць спецыялісты ў сувязі з Законам аб альтэрнатыўнай службе, які мае быць прыняты ў хуткім часе. Пакуль што за год адмовіліся служыць у войску толькі 50 чалавек. Колькасць "адмоўнікаў" можа скласці да 20 працэнтаў прызыўнікоў.

АДРАЗУ трое немаўлят нарадзілася ў сям'і шафёра Валерыя і ўрача Таццяны Лапацiных з вёскі Зазерка Пухавіцкага раёна. У іх ёсць яшчэ адно дзіця -- чатырохгадовая дачка Валерыя. Цяпер для шчаслівых бацькоў галоўная праблема -- як пабудаваць свой дом і як пракарміць вялікую сям'ю.

ПЁТР АХРЭМЧЫК -- дырэктар Доўскай сярэдняй школы ў Рагачоўскім раёне, ён жа і настаўнік беларускай мовы і літаратуры -- абраны настаўнікам года.

У абласным конкурсе педагагічнага майстэрства прымалі ўдзел 24 лепшыя настаўнікі з дзевяці раёнаў і сямі гарадоў Гомельшчыны.

ГРУПА прадстаўнікоў Першага рэспубліканскага інвестыцыйнага фонду выйшла на плошчу Незалежнасці сталіцы з плакатамі і патрабаваннем адмяніць прыпыненне дзейнасці інвестыцыйных фондаў, якое зроблена па ўказу Прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі.



**Усяго за некалькі кіламетраў ад гарадской мяжы Гомеля адбыўся разрыў прадуктаправода, пракладзенага яшчэ ў 1965 годзе. Вылілася каля 1 тысячы кубічных метраў дызельнага паліва, заліта каля 20 гектараў плошчы. Ліквідацыя аварыі цягнулася тры дні. Рабочы стан прадуктаправода не правяраўся з часу яго пракладкі.**

# ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ ДАКУМЕНТЫ

## АПЕРАТЫЎНАЯ ЗВОДКА ШТАБА 4-й АРМІІ ЗАХОДНЯГА ФРОНТУ

**N 01**

*24 чэрвеня 1941 г.*

1. Часці 4-й арміі пасля бандыцкага налёту праціўніка адыходзілі, аказваючы супраціўленне, па рубяжах абароны на Картуз-Бяроза і да 18.00 24.6 адышлі з рэшткамі сваіх карпусоў на рубеж р. Шчара, дзе замацоўваюцца для акапання далейшага супраціўлення.

2. Рэшткі часцей 28 ск, 6 і 42 сд пасля абарончых баёў... не маюць баяздольнасці.

3. 75 сд -- звестак няма...

4. 55 сд... не вытрымала наступлення мотамехчасцей праціўніка пры моцнай авіяцыйнай падрыхтоўцы, пачала адыход...

5. 14 мк, актыўна абараняючыся, пераходзячы неаднаразова ў контратакі, панёс вялікія страты ў матэрыяльнай частцы і асабовым складзе і да 25.6 не ўяўляе баяздольнага злучэння...

10 сд 22.6 панесла вялікія страты (амаль цалкам знішчана). У першай палавіне дня 24.6 удзелу ў баявых дзеяннях не прымала...

6. З 49 сд з моманту выхаду па трывозе сувязі няма...

Адыходзячыя ў беспарадку падраздзяленні, а іншы раз і часці даводзіцца спыняць і паварочваць на фронт камандзірам усіх ступеняў, пачынаючы ад камандуючага арміяй, хаця гэтыя меры, нягледзячы нават на прымяненне зброі, належнага эфекту не далі...

**Начальнік штаба 4-й арміі палкоўнік Сандалаў.**

## ДАКЛАД КАМАНДЗІРА 7-й ТАНКАВАЙ ДЫВІЗІІ 6-га МЕХАНІЗАВАНАГА КОРПУСА АБ СТАНЕ І ДЗЕЯННЯХ 7 ТД

На 22 чэрвеня 1941 года дывізія была ўкамплектавана асабовым саставам: радавымі на 98 працэнтаў, малодшым начсаставам на 60 працэнтаў і камандным саставам на 80 працэнтаў.

Матэрыяльнай часткай: КВ-51, Т-34--150, БТ-5--27, Т-26--42 адзінкі...

29 чэрвеня ў 11 гадзін з рэшткамі матчасткі (3 машыны Т-34) і атрадам пяхоты і конніцы адышоў у лясы на ўсход ад Слоніма, дзе вёў бой 29 і 30 чэрвеня...

Матэрыяльная частка ўся пакінута на тэрыторыі, занятай праціўнікам ад Беластока да Слоніма. Пакідаемая матчастка прыводзілася ў нягоднасць. Матэрыяльная частка пакінута па прычыне адсутнасці ГЗМ і рэмфонду...

**Генерал-маёр танкавых войск Барзілаў.**

## СТАНОВІШЧА НА ПІНСКІМ НАПРАМКУ

*ПАВЕДАМЛЕННЕ САКРАТАРА ЛУНІНЕЦКАГА РАЙКОМА ПАРТЫІ ПІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ В.І.АНІСІМАВА*

*Не пазней 30 чэрвеня 1941 г.*

Лунінец Брэст-Літоўскай чыгункі.

Ля апарата сакратар райкома партыі, член урада БССР Анісімаў.

Дакладваю некаторыя даныя аб стане ў нас для даклада ўраду Саюза аб становішчы спраў на Пінскім напрамку.

Цяпер ад Драгічына да Лунінца і далей да Жыткавічаў супраціўленне праціўніку аказваюць асобныя часці, а не нейкая арганізаваная армія. Штаб 4-й арміі пасля бамбардзіроўкі яго ў Кобрыне да гэтага часу не сабраны, і асобныя часці штаба шукаюць адна адну. Месца знаходжання камандуючага арміяй генерал-маёра Карабкова да гэтага часу невядома, ніхто не кіруе расстаноўкай сіл, у выніку чаго на ўчастку чыгункі Баранавічы-Лунінец нашых войск няма, Лунінец з поўначы не прыкрыты, і немцы цяпер, якія праходзяць па шашы ад Баранавіч на Слуцк, могуць бесперашкодна прыйсці ў Лунінец, што можа стварыць мяшок для ўсяго Пінскага напрамку. У самім Лунінцы гарнізона амаль няма. Праведзеная ў нашым раёне мабілізацыя людзей і коней эфекту не дала. Людзі бадзяюцца без мэты, няма ўзбраення і снарадаў.

У горадзе поўна камандзіраў і чырвонаармейцаў з Брэста, Кобрына, якія не ведаюць, што ім рабіць, няспынна ездзяць на машынах на Усход без усякай каманды, таму што ніякага старшага вайсковага камандзіра, які мог бы камбінаваць дзеянні войск, няма.

У Пінску самі ў паніцы падарвалі артсклады і нафтабазы і аб'явілі, што іх бомбамі (відавочна, падарвалі), а начальнік гарнізона і абком партыі ўцяклі да нас у Лунінец, а потым, разабраўшыся, што гэта была проста паніка, вярнуліся ў Пінск, але боепрыпасы, гаручае прапалі, -- і дыскрэдытавалі сябе ў вачах насельніцтва.

Шлюць самалёты ў разабраным выглядзе, а сабраць іх няма дзе. Іх будзем вяртаць назад.

Гэтыя факты падрываюць давер насельніцтва. Нам паказваюць нейкую невытлумачальную расхлябанасць. Усе патрабуюць неадкладных мер, прызначэння камандуючага, стварэння штаба, значнага ўзмацнення ўзброеных сіл, узмацнення знішчальнай авіяцыі, таму што цяпер бамбардзіроўшчыкі немцаў адчуваюць сябе беспакарана.

Звяртаюся да Вас, таму што і я, і Пінскі абком партыі з ЦК КПБ..."

**Заўвага**. Далей тэкст абрываецца. Па сэнсу: "сувязі не маем". -- **І.К.**

## З ДЗЁННІКА НАЧАЛЬНІКА ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА СУХАПУТНЫХ ВОЙСК ГЕРМАНІІ ГЕНЕРАЛ-ПАЛКОЎНІКА Ф.ГАЛЬДЭРА.

**22 чэрвеня 1941 г. (нядзеля), 1-шы дзень вайны.**

Пагранічныя масты праз Буг і іншыя рэкі ўсюды захоплены нашымі войскамі без бою і ў поўнай захаванасці. Аб поўнай нечаканасці нашага наступлення для праціўніка сведчыць той факт, што часці былі захоплены знянацку ў казарменным размяшчэнні, самалёты стаялі на аэрадромах, пакрытыя брызентам, а перадавыя часці, раптоўна атакаваныя нашымі войскамі, запытваюць у камандавання аб тым, што ім рабіць...

**27 чэрвеня 1941 года, 6-ты дзень вайны.**

На фронце групы армій "Цэнтр" аперацыі развіваюцца згодна з планам. Праціўнік пакінуў Беласток, тым самым мяшок на захадзе звужаецца. Праціўнік спрабуе выйсці з акружэння праз Навагрудак і Ружаны ў паўночна-ўсходнім і паўднёва-ўсходнім напрамках. Нягледзячы на абвастрэнне становішча на асобных участках нашага фронту, гэтыя спробы праціўніка беспаспяховыя.

**2 ліпеня 1941 года, 11-ты дзень вайны.**

У паласе групы армій "Цэнтр" закончана ліквідацыя акружанай групоўкі праціўніка ў раёне Беластока. Глаўком праяўляе занепакоенасць адносна групоўкі праціўніка, што акружана ў раёне Навагрудка.

**3 ліпеня 1941 года, 12-ты дзень вайны.**

У цэлым цяпер ужо можна сказаць, што задача разгрому галоўных сіл рускай сухапутнай арміі перад Заходняй Дзвіной і Дняпром выканана... Таму не будзе перабольшаннем сказаць, што кампанія супраць Расіі выйграна на працягу 14 дзён.

**Працяг. Пачатак у № 15.**







**Будынак дзіцячага садка N 183 Мінскага завода ацяпляльнага абсталявання ўжо не новы. І таму не вельмі ўпісваецца ў архітэктурны ансамбль забудоў, што падступаюць з вуліц Заслаўскай, Гвардзейскай, праспекта Машэрава.**

**Але менавіта гэта дашкольная ўстанова ў беларускай сталіцы лічыцца адной з лепшых па выхаваўчай рабоце з дзецьмі.**

**-- Для гэтага, -- расказвае загадчыца садка Святлана Сачак, -- у нас ёсць усе ўмовы. Галоўная з іх -- фінансавае забеспячэнне: завод працуе рытмічна, яго прадукцыя карыстаецца попытам, адсюль і мае грошы, частка якіх перападае і нам.**

**І сапраўды, заглянуўшы ўнутр будынка, мы былі прыемна ўражаны чысцінёй пакояў, свежапафарбаванымі сценамі, дыванамі на падлозе, колькасцю дарагіх цацак на паліцах.**

**Варты пераймання сам працэс выхаваўчай работы.**

**-- Усе нашы намаганні, -- падкрэслівае Святлана Уладзіміраўна, -- накіраваны на адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры. Няцяжка заўважыць, што дзеці ўжо ў чатыры-пяць гадоў размаўляюць на беларускай мове паміж сабой, на роднай мове вядуцца заняткі ва ўсіх групах, для канцэртаў падбіраем песні нашы, народныя, а таксама шырока выкарыстоўваем нацыянальны фальклор у гульнях.**

**З трынаццаці выхавальнікаў большасць маюць вышэйшую спецыяльную адукацыю. Выхаваўчы працэс не замыкаецца сценамі дзіцячага садка. Удзел у гарадскіх конкурсах і фестывалях, сустрэчы з кампазітарамі і фалькларыстамі, паходы ў музеі -- усё гэта спрыяе шырокаму і рознабаковаму развіццю хлопчыкаў і дзяўчынак, якія прыходзяць у першы клас добра падрыхтаванымі, умеюць і пісаць, і чытаць, і маляваць.**

**НА ЗДЫМКАХ: выхаванкі Вольга БУДНІК і Юля ВОПСЕВА -- лаўрэаты гарадскога конкурсу мастацкай самадзейнасці "Мінскі гармонік-94"; урок спеваў праводзіць Таццяна КУЗНЯЦОВА; мы малюем.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ДВА ВЯСНОВЫЯ ТЫДНІ Ў ЛЮТЫМ

*"...Молімся за Богам сцеражоную краіну нашу Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасць у веры, мужнасць у выпрабаваннях і вернасць свайму народу ўсіх нас... (з "Малебна за Беларускі Народ").*

## МАЛІТВА ЗА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

Сёння беларуская эміграцыя ў Вялікабрытаніі нешматлікая. Усяго тут налічваецца каля пяці тысяч чалавек (у Лондане -- дык і наогул каля 200). З прычыны неспрыяльнага збегу акалічнасцей, з-за нязначнае свае колькасці беларусы ў Англіі (як, дарэчы, і ў іншых краінах свету) былі залучаны да катэгорыі "расейцаў" у шырокім паняцці гэтага слова. Гэта бірка мацуецца за імі і дагэтуль, нягледзячы на ўсе змены апошняга часу. Тут няма нічога дзіўнага, калі ўлічыць, што дзесяцігоддзі пры разглядзе эміграцыйнага працэсу, наогул беларускай справы, як савецкія, гэтак і англамоўныя публікацыі не выдзялялі і не хацелі прызнаваць беларускай нацыянальнасці. Вялікую справу для вызначэння беларусаў у свеце як нацыі зрабіла паваенная хваля эміграцыі. Шмат тады нашых суайчыннікаў апынулася і ў Вялікабрытаніі. Акрамя Лондана, актыўнае беларускае жыццё віравала ў Манчэстэры, Брэдфардзе, іншых гарадах і мястэчках Англіі. Аднак у пяцідзесятыя гады пачаўся актыўны ад'езд у Злучаныя Штаты Амерыкі і Канады: на той час там лягчэй было ўладкавацца, знайсці працу, атрымаць адукацыю. Тым не менш хацелася б адзначыць, што нават і сёння (у параўнанні з нашымі суайчыннікамі ў іншых еўрапейскіх краінах) беларусы Вялікабрытаніі выглядаюць як больш згуртаваныя і актыўныя. Вялікая заслуга тут Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі, якое было ўтворана яшчэ ў 1947 годзе Жук-Грышкевічам. Адзнакай цяперашняга часу стала і супрацоўніцтва з пасольствам Беларусі ў Англіі, да ўтварэння якога нашы суайчыннікі мелі таксама непасрэднае дачыненне. Відавочна, што сваю дапамогу Беларусі звязваюць яны з тымі зменамі, якія адбываюцца на Бацькаўшчыне ў апошнія гады. Тым не менш, у даным супрацоўніцтве існуе пакуль мяжа, якую беларусы Англіі акрэслілі для сябе самі, бо далёка не ўсе змены адпавядаюць іх уяўленню аб тым, як гэта павінна адбывацца.



### I

Мне даўно хацелася наведаць "кавалачкі" Беларусі ў Лондане, але ў папярэднія разы затрымацца ў сталіцы надоўга не давялося. Затое цяпер, калі я зноў апынулася ў Англіі на пачатку лютага, нягледзячы на напружаны распарадак дня, лёгка ахвяруючы "турамі па крамах", я адразу звязалася з некаторымі нашымі суайчыннікамі і дамовілася аб сустрэчах. Аднаму з першых я патэлефанавала старшыні Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Янку Міхалюку.

Шчыра кажучы, адчувала я сябе не зусім ёмка, бо ведала, што ў спадара Міхалюка апошнім часам былі праблемы са здароўем і ён перанёс цяжкую аперацыю, у выніку якой яму аднялі абедзве нагі. Але ўвесь цяжар няёмкасці знік, як толькі пачула мяккі ветлівы голас, які паведаміў, што знае мяне па публікацыях і будзе толькі рады пазнаёміцца бліжэй. Са спадарыняй жа Міхалюк мы дамовіліся, што яна будзе чакаць мяне на выхадзе з метро ў пэўны час. Лондан -- горад вялікі, але згубіцца ў ім цяжка: трошачкі ўвагі, і заўсёды знойдзеш патрэбную табе інфармацыю (у метро яна на кожным кроку). Таму на Woodside Park трапіла я лёгка. Адзінае, што мяне непакоіла, як мы пазнаем адна адну. Былі ўжо прыцемкі, церушыў надакучлівы дождж. Разам з усімі ішла я да выхаду і раптам убачыла яе. Спадарыня Міхалюк стаяла на прыступках віадука, імкнучыся разгледзець мяне ў натоўпе. Я ніяк не чакала сустрэць такую тыповую беларусачку ў Лондане. Яе мілавідны прыгожы твар, вочы, напоўненыя патаемным сумам, нельга было зблытаць ні з якімі іншымі. Мы абняліся. У машыне нас чакаў спадар Дзейка, з якім я калісьці сустракалася, калі ён разам з айцом Надсонам прывозіў гуманітарны груз на Беларусь. Праз пяць хвілін мы былі на месцы каля тыповага англійскага дома (у гарадах яны найчасцей будуюцца сценка ў сценку, ствараючы адзін вялікі на цэлы квартал у даўжыню дом). Але гэта толькі звонку. Унутры вочы адразу тут і там натыкаліся на тыя ці іншыя рэчы, што нагадвалі Беларусь: вышываныя сурвэткі, лялечкі, саламяныя і льняныя вырабы беларускага народнага мастацтва і г.д. У дзвярах гасцінай у сваёй мотакалясцы нас чакаў гаспадар дома. Мы павіталіся і, як звычайна бывае ў беларусаў, амаль адразу апынуліся за сталом. За смачным абедам павольна цякла гутарка. Мае субяседнікі, падаецца, усё яшчэ былі пад уражаннем сустрэчы з лідэрам апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Зянонам Пазьняком, які прыязджаў у Лондан на самым пачатку лютага па запрашэнню ўрада Вялікабрытаніі. Магчыма таму, як бы чакаючы нейкага пацвярджэння сваіх думак, шмат пытанняў пачыналася так: "Ці праўда, што?..." Мяне ж цікавіла, як і чым жывуць беларусы Вялікабрытаніі сёння.

-- Усё сваё жыццё, -- кажа Янка Міхалюк, -- мы працавалі на карысць беларускай справы. Мы шмат рабілі, каб беларусаў ведалі ў Вялікабрытаніі і наогул у свеце. Дарэчы, англічан, якія займаюцца беларусістыкай, тут больш, чым у іншых краінах. Мы перажылі цяжкі час. Некалькі гадоў таму мы нават уявіць сабе не маглі, што дачакаемся незалежнасці нашай краіны, што родная мова будзе дзяржаўнай, вернуцца гістарычныя герб і сцяг. Цяпер мы ніяк не можам зразумець, як прэзідэнт суверэннай дзяржавы, на здзіў усяму свету, імкнецца зноў узняць пытанні аб мове і сімволіцы. Але мы спадзяемся, што зацерці гэта будзе немагчыма: людзі павінны былі нешта ўжо за пэўны час зразумець.

Цікава было слухаць і назіраць за гэтымі дзіўнымі людзьмі, якія з-за збегу акалічнасцей амаль паўстагоддзя таму апынуліся на Захадзе, якія большую частку жыцця пражылі ў англійскім асяроддзі, але так і не згубілі лучнасці з Радзімай, рабілі і робяць усё магчымае, каб край іх падняўся ва ўсёй сваёй прыгажосці і велічы. Лёсы іх склаліся па-рознаму, але ніколі не пераставалі яны адчуваць сябе часцінкай сваёй Бацькаўшчыны, разлуку з якой перажывалі тужліва і горка.

### II

У гэтую паўночную частку Лондана, дзе жыве даволі шмат нашых суайчыннікаў, за тыя два тыдні прыязджала я неаднойчы. Зусім недалёка ад дома Міхалюкоў на ціхай вулачцы Холдэн Роўд стаіць некалькі будынкаў, вакол якіх сёння гуртуецца беларускае жыццё ў Лондане і якія ніколі не абмінаюць наведвальнікі з Беларусі. Прыехала сюды і я. Беларускую царкву знайшла адразу, але ў гэты час дня яна была зачынена. Вядома, я ведала, што Беларуская скарынаўская бібліятэка побач, але на нейкае імгненне разгубілася: усе дамы вакол падобныя, а за квітнеючымі, здаецца, чарэшнямі, іншымі раслінамі нумароў не бачна. Таму ў першай сустрэчнай запыталася, дзе месціцца Беларуская скарынаўская бібліятэка. У адказ яна пацінула плячыма, але параіла звярнуцца за дапамогай да гаспадароў рускіх дамоў насупраць. Успомніўшы пра "бірку", здагадалася, якіх "рускіх" мела яна на ўвазе. Магчыма, мяне заўважылі з акна, таму што, пакуль я пераходзіла праз вуліцу, дзверы расчыніліся -- на парозе, як заўсёды са шчырай усмешкай, стаяў захавальнік бібліятэкі айцец Аляксандр Надсон. (Некалі, як мне здаецца, цяпер ужо даўно, пасля сустрэчы з гэтым чалавекам, іншымі вачыма мусіла я паглядзець і на сябе, і на сваю краіну).

Мы прайшлі ў чытальную залу. Там за камп'ютэрам сядзеў і працаваў Гай Пікарда. Я азірнулася вакол: уздоўж сцен -- шафы з кнігамі. З партрэта на нас глядзеў біскуп Чэслаў Сіповіч. Мы селі за вялікі, амаль на ўвесь пакой паўкруглы стол, і айцец Аляксандр пачаў свой расказ.

-- Бібліятэцы ў гэтым годзе спаўняецца 25 гадоў. Я лічу з таго моманту, калі па ініцыятыве Чэслава Сіповіча быў куплены гэты будынак. Наогул пачатак бібліятэцы паклалі прыватныя кніжныя калекцыі самога біскупа Сіповіча і Льва Гарошкі, якія складаліся спачатку як з кніг, што мелі непасрэднае дачыненне да Беларусі, гэтак і рэлігійных. Асабліва хутка пачала папаўняцца бібліятэка ў 60-я гады, а таму ўзнікла неабходнасць падзяліць гэтыя два фонды. Рэлігійныя кнігі (за выключэннем тых, якія тычацца беларускай царквы) засталіся ў Marian House, а пад беларускія ў 1970 годзе і быў набыты вось гэты будынак на Холдэн Роўд, 37. Галоўная наша мэта -- сабраць як мага больш кніг, рукапісаў, якія тым ці іншым чынам звязаны з Беларуссю. Сёння бібліятэка налічвае ўжо каля 12 тысяч назоваў. З 1990 года мы пачалі супрацоўніцтва ў рэчышчы абмену з бібліятэкай Акадэміі навук Беларусі. Мы дасылаем ім копіі выданняў, рукапісаў 20--30 гадоў, якіх на Беларусі няма. Мы ж у сваю чаргу атрымліваем ад іх апошнія беларускія выданні. Відавочна, што гэта выгадна для абодвух бакоў. У нас ёсць таксама багатая калекцыя слайдаў і мікрафільмаў.

З чытальнай залы мы пераходзім у іншыя пакоі, дзе ад падлогі да столі на паліцах стаяць кнігі. Аляксандр Надсон дае мне магчымасць пахадзіць сярод гэтых стэлажоў і шафаў, паглядзець, якія кнігі яны маюць. Кніг тут шмат: розныя даведнікі, слоўнікі, рэдкія першыя выданні Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, працы Ластоўскага, Карскага, Тарашкевіча... Чаго варты адзін толькі Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529 года! Тут ёсць архіўныя матэрыялы і дакументы з 1499 па 1682 год на беларускай мове, багатая (звыш 100!) калекцыя картаў, пачынаючы з XVI стагоддзя, можна пабачыць асобныя старонкі са Скарынаўскай біблії. Карацей, цікаўнаму чалавеку ўся гэта літаратура, а таксама экспанаты музея, сярод якіх і слуцкія паясы, і манеты XVI--XVII стагоддзяў Вялікага Княства Літоўскага, шмат-шмат рэчаў беларускай народнай творчасці і г. д., дадуць даволі поўнае ўяўленне пра беларускі народ і яго гісторыю. Глядзела я на ўвесь гэты скарб і думала: як жа рупліва трэба было папрацаваць нашым уладам, каб разрабаваць спадчыну свайго народа, каб людзі страцілі веру ў сваю моц, запамятавалі сваю гісторыю. Не менш старанна па лістку збіралі яе нашы суайчыннікі, каб захаваць і перадаць нашчадкам. Вядома, гэта яшчэ толькі маленькая частка з таго, што мы мелі і згубілі (шмат што беззваротна). Было б добра, каб кандыдаты на пасады кіраўнікоў нашай дзяржавы папярэдне прыязджалі сюды на "стажыроўку" сваёй свядомасці і годнасці. Магчыма, тады ім не давялося б скардзіцца на "беднасць беларускай мовы", а гістарычная сімволіка выклікала б толькі пачуццё гонару.




Пакуль мы хадзілі па бібліятэцы, надышоў час вячэрняй службы ў Беларускай уніяцкай царкве святых апосталаў Пятра і Паўла. Аляксандр Надсон, які, паводле яго ж слоў, носіць некалькі "капелюшоў", змяніў "капялюш" захавальніка бібліятэкі на "капялюш" святара, і мы накіраваліся да царквы. Там ужо рыхтавалі ўсё да службы маладыя наведвальнікі з Беларусі, якія прыехалі ў Лондан вывучаць рэлігійную справу і адзін з іх нядаўна быў пасвячоны ў дыяканы. Царква невялічкая, але вельмі ўтульная, з прыгожым іканастасам. Нідзе я не бачыла такой колькасці кніг для вернікаў на беларускай мове, як тут. Няцяжка было здагадацца, што ўсё гэта праца айца Аляксандра. (Цяжка ўявіць, як на ўсё яму хапае часу, бо мае ён яшчэ адзін "капялюш" -- старшыні Камітэта ахвярам Чарнобыля, які вымагае ад яго таксама шмат сіл і часу. Я перабірала брашуры, сярод якіх "Вялік Дзень", "Боская літургія між святымі Айца Нашага Яна Залатавуснага", "Абрад пахавання" і "Абрад шлюбу", і раптам наткнулася на "Малебен за Беларускі Народ". Я адкрыла кнігу: "Сусветны Уладару, спрадвечны Божа, даруй нам нашыя правіны, нашую нядбайнасць у адносінах да сябе і іншых. ...Пашлі беларускаму народу ахвярных слугаў сваіх, якія праведным сумленным і мудрым жыццём і дзейнасцю вялі б яго да лепшае долі". Пакуль я чытала, айцец Аляксандр заняў сваё месца насупраць іканастаса. Пачалася служба. На ціхай вулачцы ў паўночнай частцы Лондана маліліся па-беларуску.

**P.S.** Была нядзеля другога красавіка. Артыкул быў ужо напісаны і чакаў свайго часу да друку. Раптам мне патэлефанавалі і паведамілі, што Янкі Міхалюка больш няма. Хутчэй інтуітыўна падышла я да паліцы і выбрала тую самую касету, дзе запісана вельмі кароткая з ім гутарка. Праслухала яе зноў. У той самы момант, калі Янка Міхалюк пачаў успамінаць былое, голас яго задрыжэў, на вачах выступілі слёзы. Каб не хваляваць яго, я спыніла размову, мы перамянілі тэму і перайшлі ў гасцінную. Чамусьці згадаліся вочы спадарыні Міхалюк, яго вернай спадарожніцы, якая з паўслова, паўруху, непрыкметна для ўсіх угадвала кожнае яго жаданне. Гэта было ў сярэдзіне лютага. І вось зараз адной паловы, якая складала цэлае, не стала. У іншы свет адышоў муж, бацька, сын сваёй зямлі, шчыры, самаахвярны змагар за нацыянальнае Адраджэнне Беларусі. Сябры, аднадумцы Янкі Міхалюка на яго Бацькаўшчыне, куды неаднойчы вяртаўся ён у сваіх думках і куды так і не змог прыехаць у апошнія гады, смуткуюць разам з сям'ёй. Свае шчырыя спачуванні жонцы, дзецям і ўсім блізкім нябожчыка выказвае ўвесь калектыў "Голасу Радзімы". Застаецца вера, што беларускую справу, якой Янка Міхалюк аддаў усё сваё жыццё, кажучы ягонымі ж словамі, "ужо не зацерці". А таму моляцца беларусы ў свеце, моляцца і тут, у Беларусі, і просяць Сусветнага Уладара, Прачыстую Багародзіцу, усіх заступнікаў беларускага народа, "каб мы сталіся народам святым, які выконвае волю Божую і сваё пасланства, і каб мы ўнеслі свой уклад у агульнае дабро тут на зямлі, а ў прышлым жыцці атрымалі вечнае шчасце..."

**НА ЗДЫМКАХ: кашуля вязня канцлагера паэткі Ларысы ГЕНІЮШ сярод экспанатаў Скарынаўскага музея; Беларуская грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква і яе святар -- айцец Аляксандр НАДСОН.**

**Фота і тэкст Таісы БАНДАРЭНКА.**

## ПРА ГЕРОЯЎ І БЛАЗНАЎ ГІСТОРЫІ

# УСМЕШКІ СПАДАРЫНІ КЛІА

У ДЗЕЙНАСЦІ Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны і створанай на яго аснове Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ) і Нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў (усе яны ўзніклі ў 1991 годзе) важнае месца займае правядзенне міжнародных і рэгіянальных навуковых канферэнцый гуманітарнага цыкла, прысвечаных гісторыі і культуры Беларусі, нацыянальнай самасвядомасці, комплекснаму даследаванню праблем беларусазнаўства. Цэнтр імя Ф.Скарыны і МАБ сталі каардынацыйным асяродкам даследавання гэтых праблем у нашай краіне, зразумела, пры падтрымцы Міністэрства адукацыі і навукі, універсітэтаў ды і іншых навуковых і навучальных устаноў Беларусі.

Па ініцыятыве цэнтра імя Ф.Скарыны быў праведзены ўстаноўчы Міжнародны кангрэс беларусістаў (Мінск, 1991) і Міжнародная навуковая канферэнцыя "Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў" (Маладзечна, 1992). Матэрыялы гэтых прадстаўнічых навуковых форумаў надрукаваныя ў 1-й і 2-й кніжках штогадовіка-альманаха цэнтра імя Ф.Скарыны "Беларусіка-Albaruthenica". Праблема станаўлення і адраджэння нацыянальнай самасвядомасці зацікавіла іншыя навуковыя і навучальныя ўстановы. У выніку -- рэспубліканскія навуковыя канферэнцыі "Фальклор як сродак выхавання нацыянальнай самасвядомасці" (Мінск, 1993), "Фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці студэнтаў" (Мінск, 1993) і інш.

Другі цікавы вынік гэтых ініцыятыў цэнтра імя Ф.Скарыны -- выхад з ранейшай ізаляцыі навукова-адукацыйнай перыферыі -- абласных і раённых цэнтраў. Толькі за апошнія тры гады там адбыліся цікавыя навуковыя канферэнцыі: "Вацлаў Ластоўскі -- выдатны дзеяч беларускага адраджэння" (Навапалацк, 1993), "Беларуска-польскае ўзаемадзеяне ў грамадска-палітычнай, культурнай і адукацыйнай сферах" (Брэст, 1993), "Беларуска-рускае культурнае ўзаемадзеянне канца XIX -- пачатку XX стагоддзяў" (Віцебск, 1994), "Гомельшчына: старонкі мінулага" (Гомель, 1995) і рэгіянальныя канферэнцыі ў Навагрудку, Полацку, Нясвіжы, Міры, Валожыне і іншых старажытных беларускіх культурных цэнтрах.

Урэшце, супрацоўнікі цэнтра імя Ф.Скарыны актыўна ўдзельнічаюць у штогадовых навуковых канферэнцыях польскага Інстытута Цэнтральна-Усходняй Еўропы (Люблін), прысвечаных нацыянальнай і рэлігійнай самаідэнтыфікацыі і праблемам нацыянальных меншасцяў, і ў так званых "рымскіх" міжнародных канферэнцыях, прысвечаных нацыянальным і рэгіянальным праблемам у іх гістарычных, сацыяльна-палітычных і духоўна-культурных аспектах. Назапашаны вопыт і навуковы даробак дазволіў цэнтру імя Ф.Скарыны пры падтрымцы дзяржаўных устаноў, спонсараў і МАБ перайсці да сістэмнага даследавання міжнацыянальных узаемадзеянняў культур і правесці летась тры міжнародныя канферэнцыі, прысвечаныя беларуска-яўрэйскім, беларуска-амерыканскім гістарычным і культурным узаемадачыненням, і разам са згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" канферэнцыю "Культура беларускага замежжа".

Спадзяюся, што гэтыя даследаванні, якія маюць вялікае значэнне ў гарманізацыі міжнацыянальных узаемадачыненняў, будуць стымуляваны на запланаванай МАБ і цэнтрам імя Ф.Скарыны прадстаўнічай міжнароднай навуковай канферэнцыі на II Міжнародным кангрэсе беларусістаў, які мае адбыцца сёлета 16--18 траўня. Тэма канферэнцыі зацікавіць не толькі прадстаўнікоў гуманітарных навук і дзеячаў культуры, але і палітолагаў, эканамістаў, грамадскіх дзеячаў. Яна сфармулявана дастаткова шырока: "Беларусь паміж Усходам і Захадам: праблемы нацыянальнага, рэлігійнага і культурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу".

Сёння я хацеў бы адзначыць уклад нашых гродзенскіх калегаў у актывізацыю беларусазнаўчых даследаванняў у кантэксце славянскай і агульнаеўрапейскай гісторыі і культуры. У 1992 годзе яны падрыхтавалі міжнародную канферэнцыю, прысвечаную гісторыі культуры і рэлігіі ў Вялікім Княстве Літоўскім (XIII--XYIII стагоддзі) і Беларусі ў складзе Расійскай імперыі (канец XYIII -- пачатак XX стагоддзяў). Адна з самых прадстаўнічых і плённых па выніках "рымскіх" канферэнцый ("Рым-IY"), прысвечаная нацыянальным і рэгіянальным культурам (культурнаму памежжу) Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны, адбылася ў 1994 годзе ў Гродне. Матэрыялы канферэнцыі апублікаваны ў 3-й кніжцы "Беларусіка".

Урэшце, сёлета гісторыкі Гродзенскага універсітэта пры падтрымцы Міністэрства адукацыі і навукі ды Рэспубліканскага савета Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры падрыхтавалі канферэнцыю, унікальную пакуль што ў нас па сваёй тэматыцы: "Усмешкі спадарыні Кліа: гістарычныя кур'ёзы і парадоксы і іх выкарыстанне ў навуковых даследаваннях і выкладчыцкай дзейнасці", якая адбылася ў канцы сакавіка. Гэтая цікавая навуковая імпрэза не адбылася б без энтузіязму і настойлівасці яе непасрэдных арганізатараў, дацэнтаў кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага універсітэта Святланы Сяльверставай, Святланы Палуцкай, намесніка старшыні праўлення Гродзенскага абласнога таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Дзмітрыя Аляшкевіча ды іх добраахвотных памочнікаў. Арганізатары канферэнцыі пры нашай цяперашняй беднасці (зразумела, не ўсіх, а сфераў навукі і культуры), пры фактычнай адсутнасці сродкаў на камандзіроўкі здолелі знайсці фінансаванне, каб забяспечыць прыезд і пражыванне ў Гродне іншагародніх удзельнікаў, у тым ліку з Мінска (8), Навагрудка (1), нават з Масквы (1), узялі на сябе ўсе іншыя выдаткі.

Мяне папрасілі весці навуковыя пасяджэнні канферэнцыі. Такім чынам, я праслухаў усе даклады і паведамленні гэтага дэмакратычнага форуму, у якім удзельнічалі ўсе, хто мае дачыненне да навукі -- ад прарэктара, дактароў навук і прафесараў да студэнтаў-гісторыкаў. Прынцыповае значэнне новага падыходу да гісторыі і культуры, які выявіўся ў тэматыцы канферэнцыі, на мой погляд, заключаецца ў пераадоленні ранейшай безаблічнасці савецкай гуманітарнай навукі, у вяртанні ёй асноўнай дзеючай асобы культурна-гістарычнага працэсу -- чалавека. Персаніфікацыя гістарычнай навукі збліжае яе з фальклорам, белетрыстыкай, эстэтыкай, тэатралізуе і драматызуе гістарычны працэс і праз гэта вяртае ёй жыццёвасць. А жыццё ёсць заўсёды драма: трагедыя, камедыя альбо, урэшце, тое і другое -- трагікамедыя. Вядомы расійскі філосаф Мікалай Бярдзяеў у кнізе "Сэнс гісторыі" справядліва адзначаў, што гістарычная навука заўсёды ёсць аповесць пра асабістае, пра індывідуальны лёс чалавека, нацыі, дзяржавы. Сродкамі яе персаналізацыі з'яўляецца майстэрства гісторыка, яго інтуіцыя і літаратурны дар, але перш за ўсё -- першакрыніцы, архіўныя сведчанні, якія дазваляюць удыхнуць у навуковы тэкст жывое трапяткое жыццё пройдзеных этапаў гісторыі.

Гісторыя народаў, дзяржаў, цывілізацый, як і жыццё асабістае, ёсць найчасцей драма з трагічным фіналам. Але ёсць у гісторыі свой спод, свой камічны, нават гратэскавы аспект. Ён, на жаль, найменш прыкметны сёння, бо афіцыйнае, дэперсаніфікаванае грамадства прытупляе, нярэдка поўнасцю рэдуцыруе пачуццё смешнага, неадпаведнага, кур'ёзнага. А між тым у нашым сённяшнім жыцці герой усё часцей выцясняецца трыкстэрам -- камічным альбо дэманічным дублёрам. Вось тут якраз і прыдадуцца ўсмешкі спадарыні Кліа -- музы гісторыі.

Гэтым усмешкам, гістарычным кур'ёзам і парадоксам была прысвечана гродзенская канферэнцыя. Не ўсе яе ўдзельнікі зразумелі яе ідэю, той-сёй не паспеў увайсці ў нязвыклы навуковы кантэкст. Але рыхтуецца зборнік навукова-папулярных артыкулаў па матэрыялах канферэнцыі, гэта значыць, давядзецца папрацаваць над тэкстамі дакладаў. Я спыняюся на тых паведамленнях, якія ў пэўнай ступені адпавядалі ідэі гэтай канферэнцыі.

Цікавым было выступленне вядомага гісторыка, першага прарэктара Гродзенскага універсітэта Алеся Краўцэвіча "Дынастыя Ягелонаў -- рэальнасць альбо міф?" Размова ішла пра драматычны эпізод жыцця караля Ягайлы (герою -- 76 гадоў) і яго дзевятнаццацігадовай жонкі Софіі, беларускай княжоўны з роду Гальшанскіх. Соф'ю нядобразычліўцы абвінавацілі ў шлюбнай нявернасці і такім чынам паставілі пад сумненне законнасць дынастыі Ягелонаў. Адбыўся суд, які ў рэшце рэшт апраўдаў каралеву. Леанід Гарызонтаў (Масква, Інстытут славяназнаўства і балканістыкі) прысвяціў сваё выступленне кур'ёзам царскай адміністрацыі і парадоксам расійскай грамадскай думкі, паводле стэрэатыпаў якіх уладальнікі прозвішчаў на -скі, -іч успрымаліся як палякі і, як вынік, падазраваліся ў нелаяльнасці да Расіі. Даклад Сяргея Піваварчыка (Гродна, універсітэт) "Адкуль на Беларусі Сокалы?" развівае гэты сюжэт па архіўных "справах" аб змене прозвішчаў. Сюжэт вядомы паводле трагікамедыі Янкі Купалы "Тутэйшыя".

Даклад Алены Філатавай (Інстытут гісторыі) прысвечаны авантурнай біяграфіі Ф.Сапегі, які быў прататыпам галоўнага героя рамана "Парыжскія тайны" французскага пісьменніка Эжэна Сю. Яе калега па інстытуту Андрэй Кіштымаў выступіў з двума дакладамі. У першым распавядаецца пра сур'ёзныя і кур'ёзныя выстаўкі XIX -- пачатку XX стагоддзяў, на іх былі экспанаты з Беларусі. Другі ягоны даклад -- "Першыя ўласнікі аўтамотатэхнікі ў Беларусі пачатку XX стагоддзя: спроба сацыяльнага партрэта". Добра папрацаваў дацэнт Белдзяржуніверсітэта Валерый Кастылёў: ён падрыхтаваў "анталогію гістарычных кур'ёзаў" і апісаў прыгоды помніка каралю Станіславу Панятоўскаму. Аляксандр Дабрыян (Гродна) апавядаў пра такія ж кур'ёзныя прыгоды адкрытага Г.Шліманам славутага скарба Прыяма, які ў рэшце рэшт аказаўся ў Расіі. Змест даклада Вячаслава Шведа (Гродна, універсітэт) зразумелы па назве: "Працяты стрэламі Амура: А.Т.Касцюшка і яго каханкі".

Прафесар, доктар філасофскіх навук І.Разенфельд з Гродна гаварыў пра трагікамічную "справу" прафесараў Пецярбургскага універсітэта 1821 года, якая стала свайго роду "архетыпам" безлічы падобных "справаў" у Расійскай імперыі і ў СССР. Адну з іх праілюстраваў на цікавым архіўным матэрыяле Аляксандр Госцеў у дакладзе "Чаму Якаў Чарток не стаў літографам: да пытання аб псіхалогіі гарадзенскага абывацеля". Мой даклад быў аб трагікамічных кур'ёзах, трыумфу і заўчаснай смерці лідэра мінскага "акраіннага саюзу рускага народа" (у прастамоўі -- чарнасоценцы) і пра ягоную газету "Минское слово" (1906--1912). Кур'ёзным эпізодам гісторыі уніяцкай царквы былі прысвечаны даклады Святланы Палуцкай (Гродна), Уладзіміра Сосны (Мінск). З дакладамі выступілі Валерый Чарапіца (прафесар, дэкан факультэта гісторыі і культуры Гродзенскага універсітэта), Анатоль Шчарбакоў (Мінск), Паліна Кашко (Мінск), Міхась Гайба (Навагрудак), Андрэй Майсёнак (Гродна), Аляксей Шаланда (Гродна), Аляксандр Смелянчук, студэнткі Гродзенскага універсітэта Наталля Сліж і В.Сабалеўская, Тадэвуш Кручкоўскі (Гродна).

Нашы гісторыкі і культуролагі пераходзяць да мікрадаследаванняў, не забываючы пра канцэптуальнасць. Гэта сведчанне сталасці навукі. А ў нашага чытача наперадзе -- сустрэча з цікаваю кніжкаю.

**Уладзімір КОНАН.**

# "ЛЮДЗЯМ К ДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Зразумела, што нас найперш цікавіць беларускамоўнае кнігавыданне. На працягу года было выдадзена 795 кніг (у 1993 -- 787) разам з ратапрынтнымі вузкагаліновымі выданнямі, даведнікамі для спецыялістаў і г.д. Дзяржаўныя выдавецтвы выпусцілі ў свет 132 літаратурна-мастацкія і 57 дзіцячых кніг, 123 навучальныя дапаможнікі, 52 навукова-папулярныя і 32 даведачна-энцыклапедычныя выданні. Атрымліваецца, што стварэнне нацыянальнага фонду беларускамоўнай літаратуры залежыць цалкам ад дзяржаўных выдавецтваў, і гэтую работу яны робяць, прыкладаючы ўсе сілы і выкарыстоўваючы свой творчы патэнцыял.

Для беларускага школьніцтва выпушчана 119 падручнікаў, наклад якіх дасягнуў 11,9 мільёна асобнікаў, што нават перавысіла адпаведныя пазалеташнія паказчыкі. Але толькі пятая частка ўсёй гэтай прадукцыі -- на дзяржаўнай мове. Пра якое ж адраджэнне беларускай нацыянальнай школы можа ісці гаворка?

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" распачало выданне серый "Спадчына", "Галасы беларускага замежжа", "Скарбы сусветнай літаратуры". Вельмі важная, жыццёва неабходная справа, але наклады серыйных выданняў упалі да 1 500 асобнікаў. Якую ролю ў культурным жыцці краіны зможа адыграць такое выданне, калі яго днём з агнём праз некаторы час не знойдзеш, калі яно не трапіць нават у галоўныя бібліятэкі. Кола чытачоў беларускіх кніг заўсёды было невялікім, сёння ж яно робіцца замкнёным і нагадвае нейкую секту, якая і хацела б пашырыць свае шэрагі, ды не можа: кніга адразу пасля выхаду робіцца бібліяграфічнай рэдкасцю. Гэтак было летась. Сёлета ж, калі цэны на кніжную прадукцыю падскочылі, як і на ўсё астатняе, не разыходзяцца нават мізэрныя наклады. Кнігарні пачалі нагадваць кніжныя выстаўкі: і кніжкі цікавыя на прылаўку, і наведвальнікаў за дзень легіён перавернецца, а ў рэшце рэшт ніхто нічога не купляе (дакладней, і хацеў бы купіць, ды "купіла" няма).

У прэс-рэлізе, распаўсюджаным Міністэрствам культуры і друку, добрай прыкметай мінулага года было названа з'яўленне на беларускім кніжным рынку дзіцячай даведачнай літаратуры ("Детский плутарх", "Все обо всем", "Энциклопедия вымышленных существ", "Я познаю мир" і г.д.). Але выдадзена яна, як бачым, на рускай мове -- значыць зноў працуюць беларусы на суседнюю дзяржаву. У тым жа прэс-рэлізе заяўлена, што ў выдавецтве "БелЭн" на "падыходзе" першы том 18-томнай "Беларускай энцыклапедыі". І тут агортваюць маркотныя думкі. Нацыянальная энцыклапедыя, што ахоплівае ўсе сферы жыцця, павінна быць не толькі ў кніжнай бібліятэцы, кожнай дзяржаўнай установе, але і ў кожнай сям'і, інакш яна не выканае тае ролі ў грамадстве, якую павінна выконваць. Падчас з'яўлення нацыянальнай энцыклапедыі ў Чэхіі была праведзена цэлая агітацыйная кампанія, і мецъ падобнае выданне сталася справай гонару кожнай чэшскай сям'і. А ў нас пра тую энцыклапедыю ведае жменя філолагаў, літаратараў ды выдаўцоў.

Але пра якую стабільную дзяржаўную кнігавыдавецкую палітыку можна гаварыць, калі пад пагрозай сама дзяржаўнасць краіны, зроблены замах на душу народа -- яго мову?

Закончыла сваю працу кніжная выстава, дзе на адну беларускую кніжку прыходзіўся не адзін дзесятак кніжак рускіх, а ў Доме кнігі застаўся сядзець на подыуме той, хто першым на роднай мове выдрукаваў галоўнейшую кнігу на свеце -- Біблію: Богу ко чти и людям к доброму научению.

Вялікі гіпсавы помнік (скульптар С.Адашкевіч) ахвяравала беднай дзяржаве прыватная газета "Частный детектив". А арганізатар работы А.Белы паабяцаў у хуткім часе адліць вялікага палачаніна ў бронзе і пасадзіць у належным месцы пасярод сталіцы.

А пакуль сядзіць Скарына, як ганаровы прыдзвернік Міністэрства культуры і друку, пры саменькай лесвіцы, праўда, дакументы ні ў кога не патрабуе. А шкада, хай бы не ўпускаў у міністэрства тых чыноўнікаў, якія на дзяржаўнай службе знаходзяцца, а дзяржаўную мову вывучыць лянуюцца.

**Я.ЗЭЛЬВІЧ.**

*ДА 105-х УГОДКАЎ Казіміра СВАЯКА*

# КАБ НЕ ЗАГАВЕЦЬ ДУШОЙ

105-я ўгодкі з дня нараджэння Казіміра Сваяка былі ўшанаваны годна й урачыста -- вечарынаю ў Доме літаратара пры добра напоўненай зале і прыгожа надрукаванымі запрашальнікамі. Не тое, што пяць год таму, калі адзначаўся стогадовы юбілей знанага паэта, публіцыста, ксяндза-асветніка. Па згадках спадара Адама Мальдзіса, тады ў клубе вёскі Клюшчаны, родных мясцінах паэта, ледзь сабралася 15 асобаў пенсійнага веку, самых адважных і мала залежных ад мясцовага начальства. А потым у наваколлі цікавіліся, чые ж імяніны адзначалі -- ці то сваяка Мальдзіса, ці то сваяка Пазьняка. Але і цяпер, запытаўшы пас:палітага чалавека на вуліцы, хто такі Сваяк, наўрад пачуеш уцямны адказ. І гэта не дзіва... Вось кароткія біяграфічныя звесткі, што пададзены ў рэпрынтным зборніку вершаў паэта "Мая ліра". "Казімір Сваяк (Канстанцін Стэповіч) нарадзіўся 19 лютага 1890 года ў мнагадзетнай сялянскай сям'і арандатара ў вёсцы Барокі Свянцянскага павета Віленскай губерні. Пачатковую школу скончыў у роднай вёсцы, у 1905 годзе -- гарадскую ў Свянцянах. У 1907 годзе паступіў у Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю, дзе далучыўся да беларускага адраджэнскага руху, што гуртаваўся вакол рэдакцыі газеты "Наша ніва".

З 1912 года К. Стэповіч захварэў на туберкулёз і штогод вымушаны быў ездзіць на лячэнне ў Закапанэ. Працаваў вікарыем у Клюшчанах. Абавязкі ксяндза спалучаў з адукацыйна-асветніцкай работаю сярод прыхаджан: у парафіі адкрываў беларускія школы, беларускія настаўніцкія курсы, арганізаваў гурток беларускай моладзі "Хаўрус сваякоў" з хорам, драматычнай групаю. Наладжваў лекцыі, літаратурныя вечары з беларускімі дэкламацыямі. За прапаганду беларускай мовы і культуры выклікаў варожасць духоўнікаў, праследаваўся ўладамі Польшчы, падвяргаўся вобыскам, хатняму арышту, канфіскацыі бібліятэкі і рукапісаў.

У 1917 годзе захварэў і паехаў лячыцца ў Закапанэ. Вярнуўся ў ліпені 1919 года. За яго дзейнасцю пачынае сачыць дэфензіва. Шпікі выкрадаюць яго рукапісы.

Першы свой верш па-беларуску "На імяніны майго пробашча" К. Стэповіч напісаў 23 кастрычніка 1912 года,друкавацца пачаў у 1913 годзе ў газеце "Bielarus". Публікаваўся таксама ў календарах, газетах, у часопісах "Авадзень", "Студэнцкая думка" і інш. Выдаў зборнік вершаў "Мая ліра" (Вільня, 1924).

Памёр 6 мая 1926 года. Пахаваны ў Вільні.

За чыста інфарматыўнымі радкамі стаяць жывыя падрабязнасці. Вось, прыкладам, з голасу самога Сваяка бачанне ім свайго дзяцінства і ролі бацькоў: "Да гадоў 10, г. зн. да скончэньня народнай школы, мусіў прайсьці ўсе беды і журбы сялянскага дзіцяці, каторае мае навучыцца цяжкай працы хлебароба... Ідэалам маіх добрых родзічаў было відзець мяне ў духоўным стане. Я пайшоў па лініі жыцьця, якая мне здавалася найпрасьцейшай і якая была здаўна ў матчыных снах..." Сапраўды, К. Сваяк выйшаў з сям'і вялікай, працавітай і набожнай. Але на шляху да святарскага паклікання зведаў Божы абранец спакусы бязбожнасці і палітычных захапленняў. Хочацца, каб чытачы сам-насам пасумовіліся з асобаю Казіміра Сваяка, тым больш, што ён даў такую магчымасць праз твор "Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі", твор дзівосны, які пісаўся некалькі гадоў з розных нагодаў. Першае выданне гэтага невялікага зборніка выйшла ў Вільні ў 1932 годзе пад рэдак-



*Казімір СВАЯК (1890 — 1926)*

цыяй ксяндза Адама Станкевіча, чацвёртае ж -- у 1992-м у Мінску па замове Беларускай Каталіцкай Грамады. Дык паслухаем, што прамаўлялася маладому паэту і святару праз радкі. "...З восені 1906 году я інтэрэсуюся рэлігіяй і варочаюся павольна да пакінутай малітвы. Помню дзіўны момант. Я прыехаў у Вільню з дарагім маім айцом. Зайшліся ў катэдру, бацька дзеля Бога, а я сам ня ведаю дзеля чаго: маліцца я не мог. У капліцы адпраўлялася набажэнства. Колькі асоб з твару, як мне паказалася, інтэлігентных кленчылі ў малітве і размышленьні... Бацька апусьціўся на каленкі і пачаў свае малітвы. Сэрца маё забіла трывогай... Здалося мне, што лёс мой ня толькі ад мяне залежны. Агляд Прадвечны Бога мусіць быць над кожным. Чаго Ён ад мяне жадае? Ці Ягоная помач мне не патрэбна?.. Я хацеў высокага зразуменьня і вялікіх учынкаў. Мысьль мая аднак спакарнела... Я маліўся". Наступны запіс трохі пазнейшага часу. "Выбраў сабе небясьпечную дарогу: уступіць у сэмінарыю. Баюся, хоць чую руку Божую, што не дарма вырвала мяне з таго балота гнойнага, у каторае пачаў лезьці, забыўшы Бога ў сваім сэрцы". А вось запіс, у якім вызначана жыццёвае крэда гэтага чалавека: "Хочаць у нашай парафіі закладаць гурткі социялістычныя. Шкода мо'працы і захаду! Каб свае сілы лепш абярнулі на працу: "з Народам для Бога", -- а не "бяз Бога для Народу".

Вельмі жыва занатавана ў "Дзеях..." тое, як парафіяне і касцельнае начальства ўспрымалі казанні ў беларускай мове. "27.VII.1919. Лапеніца. Прамаўляў тут пабеларуску. Неспадзявана добрай душой была выслухана прамова, хоць колькі асоб з мяйсцовай шляхты спачатку ўсьміхнуліся, што "папросту" аб Богу стаў вучыць... 3.VIII. Другое казаньне. Спачатку адзін голас (на хорах) незадавальненьня. Ніхто ўжо ня ўсьміхаецца, толькі двух дзяцюкоў крышку маніфэстацыйна выходзяць з касьцёла. Ціш, заінтэрэсаваньне небывалае... 8.VIII. Прыйшоў ліст ад дзекана. Забараняе навук беларускіх цэлай сваёй "павагай"... 15.VIII. Зельная... Было сяньня ў касьцёле шмат і праваслаўных, каторыя спадзяваліся беларускай навукі..."

І яшчэ адзін запіс з ліста да брата, запіс, які быццам бы звернуты да сучасных палітыкаў і палітыканаў. "Рух палітычны ці наогул грамадскі мае падклад этычны... Адраджэньне мовы нашае і то мае сувязь з справамі этыкі... Мы павінны дайсьці да выснову, што калі адкінем хрысьціянства з руху нашага народнага, то ён, гэты рух, расплывецца ў золкай міжнароднасьці і этычнай разьвязласьці. "Не пакідайма мовы роднай, каб ня ўмерлі". Не пакідайма рэлігіі глыбокай нашай, каб не загавець душой..."

Запіскі гэтыя -- сапраўдны голас душы чалавека, для якога паняцце "Бог і Айчына" сталася асноваю жыцця.

Але вернемся да вечарыны. У той вечар было прамоўлена шмат разумных і шчырых словаў і з нагоды юбілею, і ў сувязі з нашымі рэаліямі. Прагучалі яны з вуснаў знаных на Беларусі і за яе межамі людзей: спадароў А. Мальдзіса, Г. Сурмач, Ф. Янушкевіча, Л. Пецінай... Артыст спадар Вінярскі чытаў вершы К. Сваяка, бард А. Атаманаў спяваў свае прыгожыя песні. Святарскі каталіцкі корпус прадстаўляў айцец Уладыслаў Завальнюк, пробашч касцёла Святых Сымона і Алены ў Мінску. Ён зусім слушна заакцэнтаваў увагу на духоўным выхаванні ў сям'і Стэповічаў і на ролі бацькоў К. Сваяка. Сапраўды, хоць нагодаю вечарыны быў юбілей паэта, але выступоўцы не забыліся ўспомніць удзячным словам і ягоных бацькоў -- Матэвуша і Альжбэту, якія здолелі даць усім дзецям добрае выхаванне і адукацыю. Неаднойчы падчас вечарыны ўспаміналася імя і старэйшага брата Казіміра -- Альбіна Стэповіча, таленавітага музыканта, публіцыста, палітычнага дзеяча 30-х гадоў, з якім К. Сваяк быў асабліва блізкі. Не ведаю, ці дарэчы тут слова "сенсацыя", але менавіта такое ўражанне зрабілі музычныя творы, што прагучалі са сцэны. Гэта былі песні і рамансы Альбіна Стэповіча на вершы Купалы, Сваяка і свае ўласныя. Віктар Скарабагатаў і Ганна Каржанеўская вызвалілі гэтую музыку з палону забыцця і прадставілі яе ў незвычайным ззянні. Талент творцы яе відавочны. Вельмі хочацца верыць, што гэтыя творы, блеснуўшы на юбілейнай вечарыне, не будуць забытыя наноў. Хочацца верыць, што ўсёй сям'і Стэповічаў Беларусь нарэшце аддасць належную пашану.

Інтэлігентна й прыгожа правяла вечарыну аўтар сцэнарыя спадарыня Ірына Багдановіч, дасведчаная літаратуразнаўца й паэтка. Прысутныя адчулі каштоўнасць таго, што прамовілася й пралілося ў гуках, адчулі светлы дух людзей, чые імёны былі ўспомненыя. У фінале вечарыны прагучаў гімн "Магутны Божа", праспяваны залаю, як належа быць, стоячы. Фанаграма дапамагла прысутным узгадаць і словы, і мелодыю. Ёсць спадзяванне, што на 110-я ўгодкі Казіміра Сваяка поўная зала ўпэўнена й чыста, без падказкі, будзе спяваць духоўны гімн Беларусі.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**P.S. У цытатах захавана мова К. Сваяка.**

*Янка САМОТНІК З ХОШЧНА*

# УСЯГО АДЗІН ЛІСТ

**Гэтак часта сябе называе Янка Тарчэўскі -- родны ўнук Францішкавай сястры Ганны Багушэвіч. Для самога Францішка ён таксама ўнук, але ўжо стрыечны. Тым не менш, дзядзька Янка ўсцешаны, што належыць да роду Багушэвічаў. Праз усё сваё жыццё ён пранёс любасць да сваёй Бацькаўшчыны, да свайго краю, да сваёй зямлі, мовы, культуры. Гэтаму паспрыяла і тое, што яго тата -- Ян Тарчэўскі -- таксама быў самаахвярным прыхільнікам беларушчыны. Узгадаваны на Багушэвічавым патрыятызме, на яго творчасці, ён і сыну перадаў сваю любасць да ўсяго нашага, спрадвечнага. З пасляваеннай пары дзядзька Янка жыве ў Польшчы. Калі быў маладзейшы, часам наязджаў у Вільню, Ашмяны, Кушляны і сваю родную Асінаўку. Цяпер мы з ім толькі зрэдку лістуемся. Ліставанне наша, безумоўна, не зусім прыватнае. Яно прасякнута жаданнем глыбей спазнаць і Францішка Багушэвіча, і блізкіх да яго людзей, і шмат чаго іншага, грамадскага, значнага. Пра гэта якраз адзін з яго апошніх лістоў. Працытуем яго цалкам, тым больш, што Багушэвічаву ўнуку ў красавіку час адлічыў восемдзесят гадоў. То чытайма:**

"Даражэнькі Уладзімір!

Пасля ці не двухгадовага перапынку ў нашай перапісцы дык невядома ад чага распачаць пісаць гэты ліст. Ну дык перш за ўсё хачу табе шчыра і сардэчна падзякаваць за прысланую кніжку "Сцежкамі Мацея Бурачка" -- гэта значыць, за тое, што ты пастараўся яе прыслаць, а таксама за тваю вялікую працу над ёю. Мне здаецца, што вось толькі дзякуючы тваёй старраннай працы тыя сцежкі не зараслі палыном і не патанулі ў людской непамяці. Праўда, што з аповесці Хомчанкі тыя ўкраінскія сцежкі Ф.Б., меншбольш апісаныя, але вось невядама, колькі там фікцыі, а колькі праўды ці асобы там успомнены праўдзівыя ўсе, а таксама сітуацыі і вобразы. Вядома, што гэта белетрыстыка і не той тып пісьменніцтва, што твая кніжка і дзеля таго, хоць цікава напісана, а ўсё ж мне асабіста паказалася яна чужаватая. А вось у тваіх "Сцежках" знаходжу і праўдзівасць, і стараннасць пры апісванні людзей і ўдакументаваных фактаў, каторыя маглі нешта сказаць пра Ф.Б. Чытаючы яе, перажываў я: вось быццам хадзіў па тых кушлянскіх сцежках. І дзеля таго яшчэ раз дзякую за кніжку і за тое, што ты, братка, у ёй "не забыў пра мяне". Ну а цяпер пастараюся адказаць на твае пытанні.

1. Не ведаю чаму, але пра Свіраны ў нас у хаце ніколі не было гаворкі, і я ніколі ў іх не быў.

2. Пра сваю маму. Што ж я магу расказаць? Хіба толькі тое, што была яна вельмі скромная, ціхая, запрацаваная, а жыццё не паскупіла ёй усялякага гора. Традыцыйнасць у нашай сям'і вызначаў каталіцкі каляндар і касцёл. Калі быў наказаны пост, дык гэта быў пост. Нікому і ў галаву не прыходзіла, каб яго ламаць. Вось, скажам, Вялікі пост перад Вялікаднем, дык толькі ў нядзелю можна было паесці з мясам ці бліноў з верашчакаю -- ой, як смачна было! А ўжо серада, пятніца і субота, дык там толькі затаўкаліся стравы алеем альбо елі бульбу з саладухай, а рэшта днёў можна было есці з малаком. Калыханак і казак я не помню, хіба іх не было. А песні яна спявала толькі набожныя, польскія, прадучы кудзелю. Навучыла мяне шанаваць і вельмі любіць прыроду, усяго, што жыве. Ну і моцна верыць у Бога, яго вялікай моцы. Аднаго маме не ўдалося: а гэта пераканаць мяне, што мы палякі! Тут ужо ўзяло верх татава пераканане.

3. Цяпер пра тату. Не шмат мне помніцца пра яго, але тоесёе прыпамінаецца. Што праўда, тады, будучы дзесяцігадовым хлапчуком, не вельмі я разумеў тыя падзеі, у якіх удзельнічаў тата. Але помню, што яго часта правярала паліцыя, а калі праходзілі выбары ў Сойм, дык тату забіралі ў турму, а ў хаце рабілі рэвізіі. Было з гэтага многа бяды. Трэба было хаваць усе газэты, кніжкі -- усё, што было па-беларуску. Так было, што, калі беларус, значыць камуніст і няма што з такім цацкацца, усіх у адзін мех. Так паступалі польскія ўлады. А тата сапраўды не быў камуністам, а проста жадаў праўды і паправы долі свайму народу, таксама, як і Мацей Бурачок. Татавы зносіны з беларускімі дзеячамі з Вільні ксяндзамі — А.Станкевічам, Гадлеўскім і іншымі, з пасламі ў польскі Сейм беларусамі, каторых пасля судзілі, не даюць падставы прыпісваць тату камунізм. Тата вельмі цікавіўся тэатральнай дзейнасцяй, намагаўся арганізаваць беларускія п'есы. Помніцца мне, як забраў мяне на такі спектакль у вёску Луды, што каля Граўжышак. Ставілася камедыя Фр. Аляхновіча "Птушка шчасця".

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**



**Ян ТАРЧЭЎСКІ з жонкай Марыяй, дачкой Ганны Багушэвіч.**







**У мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці працавала выстава пад назвай "Неба. Жыццё. Лёс". Яна аб'ядняла работы двух мастакоў -- Марыі Харытончык і Аляксея Аляксеева. Ім абодвум па 35, абодва -- інваліды I групы па зроку. І хоць лёс іх нялёгкі, мастакі змаглі захаваць у сабе дабрату, чалавечнасць, уменне жыць і радавацца жыццю. Пра гэта сведчаць іх работы.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак з Гродна Аляксей АЛЯКСЕЕЎ і яго работа "Белая варона"; аклад да гэтай іконы стварыла Марыя ХАРЫТОНЧЫК.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

# УСЯГО АДЗІН ЛІСТ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Хто браў удзел у гэтай камедыі, ужо не помню. Адно толькі згадваю, што ў той час у Граўжышках у касцёле працаваў арганістым татавы блізкі сваяк Сухавала. І вось ці толькі ён з сваімі дочкамі гэтую п'есу паставіў разам з татам. Хацеў тата наладзіць спектакль і ў Ашмяне, намагаўся паставіць драму "Страхі жыцця" -- ці таксама Аляхновіча, у каторай і мне давялося тады іграць ролю нейкага, здаецца, Алеся. Вазіў тата мяне і Чайкоўскую, тады яшчэ Сташкевічанку, у Ашмяну на пробы, але паказалася ўсё надарма, бо як усё было гатова, дык улады не далі дазволу, каб паказаць гэтую драму на сцэне.

4. Адносна бел-чырвона-белага сцягу, дык я ж табе гаварыў, едучы з Менска ў Вільню, што я некалі чуў ці недзе чытаў, што гэтыя калёры ўзяты з постаці селяніна-сейбіта, засяваючага сваю ніву, а адзетага ў белую світку, апярэзанага чырвоным поясам. Мне здаецца, што гэта ўсё адно якая легенда, парадзіўшая ці з селянінам, ці з тым рыцарам у закрываўленай кашулі. Важна тое, каб вось народ гарнуўся пад гэты сцяг.

5. Пра вынішчэнне вязняў у Ашмянскім астрозе. Помніцца мне, што там НКВД забіў некалькі дзесяткаў людзей -- казалі, што некалькі, каля пяцідзесяці асобаў. Выводзілі з турмы ў склеп пад гмахам былога староства (стаіць дагэтуль) і там стралялі і кідалі на кучу. Паміж пабітымі знаходзіўся і той, можна сказаць, сусед, Міхал Багдановіч з Беляніішак, каторага толькі ранілі і кінулі на кучу пабітых, гдзе ён прытаіўся і дачакаў ранку, калі ўсё абціхла, бо гэтыя каты ўжо ўцяклі, а немцаў яшчэ не было. Ён неяк вылез з гэтай казні. Нямецкія лекары яго вылечылі. Пасля вайны быў ён тут у Польшчы, не ведаю, чы яшчэ жывы...

У міжчасе знайшоўся той здымак з пахаваннем таты. Пасылаю яго табе, а таксама пасылаю ўсе паперы, якія яшчэ захаваліся ў мяне, а каторыя, калі мяне не стане, нікому не патрэбныя, дык прападуць марна. А вось у цябе, мой ты даражэнькі, можа на штосьці спатрэбяцца ў тваей даследніцкай працы. Для мяне ж гэта вялікі гонар, што вось дзякуючы табе, памяць па маім тату не загіне. Пасылаю тут метрыкі татавага нараджэння і аб смерці ягонай маці, пашпарт нямецкі маей матулі з 1917 года; паперы, каторыя сведчаць аб тым, чым тата займаўся; копіі дакументаў куплі Асінаўкі. Нейкія справы меў аж у Туле. Сам Бог ведае, гдзе яго не насіла па свеце. Яго больш цікавілі справы юрыдычныя, чым гаспадарка, аб яе клапаціцца прыходзілася маме.

Даражэнькі і родны мой Валодзя! Не думай, што я праз гэтыя два гады быў забыўшыся пра цябе і Бацькаўшчыну. Мае думкі кожны дзень кружылі па роднай старонцы. Не перастаю марыць, што можа дасць Бог давядзецца яшчэ калі наведаць дарагія мне мясціны, хоць слабая на гэта надзея...

Дата майго нараджэння 27-га красавіка 1915 года.

Весткі пра падзеі на Беларусі маю толькі праз радыё "Свабода". Не заўсёды яны бываюць суцешныя. Ну вядома, старыя дыназаўры яшчэ дзяржацца крэпка, а і ў народзе не ўсё складаецца так, як трэба... А можа ты мне напішаш штокольвек, з чаго можна будзе пацешыцца?

**Янка ТАРЧЭЎСКІ.**
*30.VI.1992 г."*

**Усяго толькі адзін ліст, а колькі ў ім для ўсіх нас цікавага, новага, невядомага, слушнага і надзённага! Гэтак і хочацца падзякаваць дзядзьку Янку за ягоную шчырасць, за тыя звесткі, якія ён паведаміў нам для нашай гісторыі, для нашага гістарычнага летапісу. Цяпер можна быць пэўным, што не згіне, не закінецца на марна тая рупнасць, якую паклалі Тарчэўскія на алтар Бацькаўшчыны, дзеля беларушчыны. За гэта ім абодвум наша пашана, наша павага і ўдзячнасць.**

**Уладзімір СОДАЛЬ.**



**НА ЗДЫМКУ: стрыечны ўнук Ф.Багушэвіча Янка ТАРЧЭЎСКІ ля помніка свайму славутаму сваяку ў Жупранах. 1987 год.**

# ДА ЧЫТАЧОЎ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"

**Паважаныя сябры!**

**Доўгі час мы рабілі ўсё магчымае, каб вы не гублялі лучнасці з Бацькаўшчынай і атрымлівалі весткі праз нашу газету. "Голас Радзімы" фактычна пакуль адзінае выданне, якое трапляе да беларусаў як далёкага, так і блізкага замежжа. Мы вельмі ўдзячны ўсім нашым чытачам, якія падтрымліваюць газету і застаюцца з намі.**

**На жаль, у сувязі з пагаршэннем эканамічнага становішча з кожным днём робіцца ўсё цяжэй знаходзіць сродкі на выданне газеты і яе экспедзіраванне. Больш таго, з пачатку гэтага года расходы на паштовыя адпраўленні за мяжу павялічыліся ў шэсць разоў. Дзе ўзяць такія вялікія сродкі?**

**Мы звяртаемся да ўсіх нашых чытачоў і прыхільнікаў "Голасу Радзімы" з просьбай падтрымаць газету, якую вы лічыце сваёй і якая вам патрэбна. Будзем удзячны за любыя ахвяраванні на газету, якія можна дасылаць у выглядзе чэкаў на адрас рэдакцыі або пераводзіць на рублёвы рахунак выдавецтва "Полымя" з паметкай:**

**Для газеты "Голас Радзімы" (Р/р 363902 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Мінска, код 764).**

**Спіс ахвярадаўцаў будзе рэгулярна друкавацца ў газеце.**

**Спадзяемся на вашу дапамогу.**

## *СПОРТ*

## "СПРАВА" КУРЛОВІЧА

Допінгавыя скандалы сёлета спартыўнымі журналістамі асвятляюцца не менш, чым самыя буйныя спаборніцтвы. Адна справа змяняецца другой: спачатку папакутавалі кітайскія плыўчыхі, у якіх адабралі медалі за перамогі на першынстве свету і не зацвердзілі рэкорды, потым штрафным санкцыям падверглася вялікая група легкаатлетаў з многіх краін, у тым ліку і з краін СНД.

Нарэшце "дабраліся" і да чэмпіёна Алімпійскіх гульняў Аляксандра Курловіча, які сёння выступае за адзін з германскіх клубаў. Менавіта немцы і "пасадзейнічалі" дыскваліфікацыі беларуса на два гады. Сутнасць у наступным. Біяхімікі гэтай краіны дапусцілі грубыя парушэнні пры ўзяцці пробы на допінг у Курловіча: адсутнічаў прадстаўнік нашай рэспублікі, аналіз не быў апламбаваны і іншае.

І таму кіраўніцтва Камітэта па спорту Рэспублікі Беларусь узбудзіла хадайніцтва перад Міжнароднай федэрацыяй цяжкай атлетыкі аб пераглядзе справы Курловіча і адначасова звярнулася ў Міжнародны арбітражны суд МАК.

Для нас рашэнне гэтых аўтарытэтных спартыўных арганізацый будзе мець вялікае значэнне. Калі не ўдасца даказаць невінаватасць Аляксандра Курловіча, то мы не ўбачым яго на чарговых Алімпійскіх гульнях, якія пройдуць у 1996 годзе ў Атланце. Пакуль, як вядома, у нашага спартсмена няма дастойнага саперніка ў самай цяжкай вагавой катэгорыі.

Канчатковае рашэнне па "справе" Курловіча будзе прынята на працягу двух тыдняў.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1051. Падпісана да друку 18. 4.1995 г.**